www.nv-online.info

№ 60 (4005)

4 жніўня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* КОЛАС

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Частковая еўраамністыя

ЕС выключыў з «чорнага спісу» 24 беларускіх чыноўнікаў

Савет Еўрапейскага Саюза выключыў 24 грамадзян Беларусі са спісу асоб, якія трапляюць пад санкцыі ЕС. У лік амнісціраваных трапілі не толькі былыя, але і цяперашнія чыноўнікі, рэктары ВНУ, а таксама суддзі.

Так, са спісу выключаны:

**Наталля Пяткевіч** – былая памочніца прэзідэнта Беларусі,

**Леанід Мальцаў** – старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта,

**Генадзь Нявыглас** – былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта,

**Анатоль Рубінаў** – былы старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу,

**Яўген Полудзень** – былы намеснік міністра ўнутраных спраў,

**Уладзімір Палуян** – міністр па падатках і зборах,

**Аляксей Васільеў** – першы намеснік старшыні Дзяржкаммаёмасці,

**Юрый Пракопаў** – былы вядучы тэлеканала «Беларусь 1»,

**Сяргей Абламейка** – рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта,

**Тамара Алпеева** – рэктар Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута,

**Генадзь Падгайскі** – дырэктар Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа,

**Міхаіл Батура** – рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.

Акрамя таго, з «чорнага спісу» ЕС выкраслены суддзі **Андрэй Бараноўскі, Алена Ананіч, Вольга Гусакова, Мікалай Балаўнёў, Алена Чарняк, Жанна Дубініна, Наталля Кузняцова, Алена Лапцева, Наталля Меркуль, Лідзія Цяліца, Наталля Варэнік, Валянціна Зянькевіч.**

Нагадаем, што крыху раней Савет ЕС сваёй пастановай падоўжыў тэрмін дзеяння санкцый супраць Беларусі да 31 кастрычніка 2015 года. Еўрасаюз спасылаўся на тое, што не ўсе палітвязні былі вызвалены і рэабілітаваны, а таксама тым, што выкананне правоў чалавека, прынцыпаў прававой дзяржавы і дэмакратычнага грамадства ў Беларусі не палепшылася.

ЦЭНЫ

## Што будзе пасля выбараў?

Улады не рызыкуюць павышаць тарыфы перад прэзідэнцкімі выбарамі, баючыся незадаволенасці насельніцтва, аднак адразу пасля выбараў сітуацыя зменіцца.

Найбольш істотны рост тарыфаў чакаецца на транспарт і сувязь. Гэта прадугледжана прагнознымі дакументамі на будучы год, якія зараз распрацоўваюцца.

Па звестках БелаПАН, чакаецца, што спажывецкія цэны ў 2016 годзе вырастуць на 12%. Тарыфы на паслугі паштовай і электрасувязі плануецца павысіць на 40%. Кошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска мяркуецца падвысіць на 33% – да 6000 рублёў за адну паездку. Перавозка пасажыраў чыгуначным транспартам можа падаражэць удвая.

Тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў 2016 годзе плануецца павысіць на 5–7 долараў у эквіваленце і індэксаваць штоквартальна з улікам змены намінальнай заработнай платы.

Іншыя цэны, што рэгулююцца дзяржавай (на паслугі ўстаноў адукацыі, дзіцячых дашкольных установ, лекі) у сярэднім у наступным годзе плануецца павысіць на 10–12%.

ЧУЛІ?

## Зімовыя Алімпійскія гульні 2022 пройдуць у Пекіне

Такое рашэнне было прынята на чарговай сесіі Міжнароднага алімпійскага камітэта ў пятніцу ў сталіцы Малайзіі Куала-Лумпуры.

Дарэчы, на правядзенне Алімпіяды-2022 таксама прэтэндаваў казахстанскі мегаполіс Алматы.

ВЫБАРЫ–2015

## Верыць – не верыць

У межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» выдадзена аналітычная справаздача па выніках назірання за выбарчай кампаніяй за перыяд з 23 ліпеня па 2 жніўня.

У справаздачы паведамляецца, што Сяргей Гайдукевіч сабраў 55 тысяч подпісаў, Віктар Цярэшчанка – 22 тысячы, Таццяна Караткевіч – 15 тысяч, Анатоль Лябедзька – больш за 10 тысяч, у падтрымку Сяргея Калякіна сабрана больш за 6 тысяч подпісаў. Акрамя таго, яшчэ ў канцы мінулага тыдня старшыня ЦВК паведаміла, што ўжо больш за 100 тысяч подпісаў у падтрымку дзеючага прэзідэнта накіравана ў ЦВК.

Відавочна, што, называючы колькасць подпісаў, сабраных у падтрымку таго ці іншага кандыдата, назіральнікі абапіраюцца на звесткі, агучаныя альбо самімі прэтэндэнтамі, альбо кіраўнікамі іхніх штабоў, а гэтыя звесткі, як паказвае вопыт, далёка не заўсёды адпавядаюць рэчаіснасці. Таму пакуль няма ніякіх падстаў верыць, што той жа сумнавядомы Сяргей Гайдукевіч сабраў 55 тысяч подпісаў. Як нельга паверыць у яго словы, што партыя, якой ён кіруе, налічвае дзясяткі тысяч сяброў.

ТЫМ ЧАСАМ

## Камуністы перастараліся?

Актывісты Партыі БНФ, якія ў Мінску збіраюць подпісы ў падтрымку вылучэння Таццяны Караткевіч, сталі сведкамі, як яны лічаць, парушэнняў выбарчага заканадаўства з боку ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі. У сувязі з гэтым яны звярнуліся ў Цэнтральную камісію па выбарах са скаргай, у якой патрабуюць вынесці ініцыятыўнай групе дзеючага прэзідэнта папярэджанне.

Каля ўніверсама «Цэнтральны» ў Мінску, дзе збіраюць подпісы пікеты шматлікіх кандыдатаў, ініцыятыўная група Лукашэнкі з ліку сяброў праўладнай Камуністычнай партыі Беларусі раздавала друкаваныя выданні на карысць свайго вылучэнца. Хаця на стадыі збору подпісаў забараняецца раздача якой-небудзь агітацыйнай прадукцыі. Сведкі гэтага парушэння звярнуліся са скаргай у ЦВК, прыклаўшы да звароту фотаздымкі раздачы газеты «Камуніст Беларусі. Мы і час», якія распаўсюджваліся ў часе пікета камуністаў-прыхільнікаў Лукашэнкі. Таксама прыкладзены і асобнік самой газеты (№30(970) ад 24 ліпеня 2015 года), у якой на першай старонцы размешчаны фотаздымак Лукашэнкі і апублікаваны іншыя матэрыялы перадвыбарнага характару.

Сярод артыкулаў ёсць і востра крытычны матэрыял пра кампанію назірання за выбарамі «Права выбару», які ўтрымлівае зняважальныя (калі не сказаць – паклёпніцкія) звесткі на адрас праваабаронцаў.



ФОТАФАКТ

## І ім цікава



Старшыня Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Брэсцкай вобласці **Вячаслаў Язерскі** (у светлым касцюме) прыйшоў на пікет паслухаць Анатоля Лябедзьку.

Як сведчаць мясцовыя журналісты, гэта першы выпадак, калі кіраўнік мясцовага КДБ з'явіўся ў публічным месцы. Сам прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду пракаментаваў з'яўленне на пікеце першай асобы мясцовага КДБ так: "Напэўна, яго таксама цікавяць новыя працоўныя месцы".

Нагадаем, што "Мільён новых працоўных месцаў" – гэта праграма Аб'яднанай грамадзянскай партыі і перадвыбарная праграма Анатоля Лябедзькі.

Пра што ён яшчэ гаварыў?

– Зайдзіце ў краму і вы ўбачыце, што ў чарговы раз выраслі кошты. Прыйдзіце на заводскую прахадную і заўважыце, што прадпрыемства працуе няпоўны тыдзень. Улада прывяла краіну ў тупік, і не толькі ў эканоміцы... Я не заклікаю вас галасаваць, я заклікаю вас змагацца за перамены, за чэсныя выбары, за праграму "Мільён працоўных месцаў".

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Улада з выбарчай сістэмы прыйшла ў тупік»

Ужо другі тыдзень патэнцыяльныя кандыдаты на прэзідэнта і члены іх каманд размаўляюць з выбаршчыкамі, стаяць у пікетах, абыходзяць кватэры. Што чуюць у адказ?

Прэтэндэнт ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** пасля сустрэч з выбаршчыкамі лічыць, што пра сёлетнюю выбарчую кампанію нельга казаць толькі негатыўна альбо толькі пазітыўна. *«З аднаго боку, я канстатую: улада з выбарчай сістэмай прыйшла ў тупік. Цікавасці да выбарчай кампаніі, нават прэзідэнцкай, няма. У людзей не гараць вочы. Яны хочуць перамен, але не глядзяць на выбары як на інструмент перамен. Тут не адчуваецца непасрэднай сувязі, – кажа Лябедзька. – Разам з тым, калі размаўляеш з людзьмі, а для мяне гэта не 10 дзён, а ўжо два месяцы вандровак па рэгіёнах бачыш, што ёсць высокая цікавасць да нашага паслання «Мільён новых працоўных месцаў». Гэта людзей рэальна хвалюе. Аднак яны, ставячы подпіс за нашу праграму, за мяне асабіста, адначасова кажуць: мы не верым, што ў нас нешта зменіцца, у нас альбо не лічаць галасы, альбо мы ідзём, галасуем-галасуем, а ў выніку атрымліваецца зусім іншае.*

*Думаю, уладзе трэба задумацца, што рабіць. Бо гэта першая прэзідэнцкая кампанія з такой нізкай цікавасцю. Значыць, ёсць цікавасць да перамен, але няма цікавасці да выбарчай кампаніі».*

Аднак людзі чакаюць, кажа патэнцыяльны кандыдат на прэзідэнта ад партыі «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін:** *«Чакаюць, што з'явіцца нейкі Бэтман, нейкі цудатворца, хто вырашыць усе іх праблемы. Але без іх удзелу. Аднак такога ж не бывае. Гэткі стан людзей вельмі небяспечны для будучыні нашай краіны».*

Збор подпісаў за патэнцыяльных кандыдатаў на прэзідэнта працягнецца па 21 жніўня ўключна.

МАНІТОРЫНГ

## Каб усё па-чэснаму

Прэзідэнцкая выбарчая кампанія яшчэ на старце, а праваабаронцы, якія назіраюць за выбарамі, ужо паведамляюць пра парушэнні. У першую чаргу гэта тычыцца задзейнічання адміністрацыйнага рэсурсу пры зборы подпісаў за вылучэнне аднаго з кандыдатаў.

Так, стала вядома, што ў гомельскай школе №27 у працоўны час збіралі подпісы за Аляксандра Лукашэнку, на «Брэсцкім электрамеханічным заводзе» кіраўніцтва спрыяла ініцыятыўнай групе А. Лукашэнкі збіраць подпісы ў працоўны час, а таксама супрацоўніца Салігорскага цэнтра занятасці насельніцтва амаль у загадным тоне запатрабавала ад удзельнікаў заняткаў падпісацца за дзеючага кіраўніка краіны.

*"Калі вы сталі сведкам ці ахвярай такіх незаконных дзеянняў, паведамляйце нам",* – заклікаюць праваабаронцы. Яны нагадваюць, што ўдзел у выбарчай кампаніі на ўсіх яе этапах з'яўляецца добраахвотным. Тыя, хто парушае выбарчае заканадаўства і прымушае грамадзян падпісвацца супраць іх волі, могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай і крымінальная адказнасці.

Праваабаронцы гатовы аказаць прававую дапамогу ў абскарджанні незаконных дзеянняў адміністрацый.

Звязацца можна праз электронную скрыню viasna@spring96.org
ці па тэлефонах:
**8 (017) 394-63-11,**
**+375 29 841-39-81.**

УРАДЖАЙ

## Ёсць 3 мільёны!

Сельгасарганізацыі Беларусі па стане на ўчарашні дзень намалацілі 3 мільёны 144 тысячы тон збожжа, што амаль у 2 разы менш, чым на гэтую ж дату ў 2014 годзе.

Па аператыўнай інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, на 3 жніўня было убрана 888,1 тыс. га, або 39,5% плошчаў, якія падлягаюць уборцы.

Ураджайнасць збожжавых і зернебабовых культур у бягучым годзе застаецца ніжэй за леташнюю. Па апошніх паказчыках – на 4,4 ц/га і складае 35,4 ц/га.



Паводле дадзеных Мінсельгасхарча, на сёння па валавым зборы збожжа лідзіруюць сельгасарганізацыі Брэсцкай вобласці, дзе сабрана 806,1 тысячы тон збожжа.

УЧОРА

## Дзіўны візіт



***Учора Аляксандр Лукашэнка сустракаўся з амерыканскімі кангрэсменамі. Яны прапанавалі павысіць узровень дыпламатычнага прадстаўніцтва і вярнуць амбасадара ЗША ў Мінск і амбасадара Беларусі ў Вашынгтон.***

Аляксандр Лукашэнка, згодна з афіцыйнай інфармацыяй, на сустрэчы адзначыў, што беларускі бок шануе падтрымку сваіх ініцыятыў у ААН і гатоўнасць Злучаных Штатаў спрыяць далучэнню Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі. *«Мяркую, што нам трэба будаваць адносіны паміж ЗША і Беларуссю не па сродках масавай інфармацыі, а непасрэдна вывучаючы абстаноўку ў краінах, і рабіць з гэтага адпаведныя высновы»,* – перадае прэс-служба словы беларускага кіраўніка.

У сваю чаргу член Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ад штата Каліфорнія Дана Рорабакер прапанаваў павысіць узровень дыпламатычнага прадстаўніцтва паміж Беларуссю і ЗША. Ён прапанаваў вярнуць амбасадара ЗША ў Мінск і беларускага амбасадара ў Вашынгтон.

Дана Рорабакер адзначыў, што гэта першы за доўгія гады візіт кангрэсменаў ЗША ў Беларусь. Як перадае БЕЛТА, кангрэсмен заявіў: *«Я быў рады ўбачыць у Беларусі тое, што ўбачыў. І тая карціна, якая мне адкрылася, аддае належнае вашым намаганням і намаганням вашай краіны, якія былі зроблены для народа. І я спадзяюся, што ў вас ёсць яшчэ многія рэчы, якімі можна ганарыцца. І што ў нас сапраўды існуе мноства сфер для супрацоўніцтва. І я гатовы атрымаць новыя ўражанні праз многія гады пасля папярэдняга візіту».*

Дзіўна, аднак, што да апошняга прозвішчы прадстаўнікоў Кангрэса ЗША, якія завіталі ў Мінск, не называліся, таму немагчыма было зразумець, сур'ёзны гэта візіт ці несур'ёзны, хто прыехаў і навошта, якія будуць наступствы.

На момант падрыхтоўкі гэтага нумара ў друк нам было вядома прозвішча толькі аднаго амерыканскага кангрэсмена – Дана Рорабакера. Гэтага чалавека нельга назваць уплывовым амерыканскім палітыкам, але на поставецкай прасторы ён у пэўным сэнсе вядомы.

У 1990-х гадах, падчас візіту расійскай дэлегацыі ў ЗША, ён прайграў сяброўскі паядынак па армрэстлінгу Уладзіміру Пуціну, які займаў тады пасаду віцэ-мэра Санкт-Пецярбурга.

Пасля гэтага пройгрышу Рорабакер з заўзятага прыхільніка халоднай вайныператварыўся ў не менш заўзятага прыхільніка Уладзіміра Пуціна і застаецца лабістам інтарэсаў Крамля ў ЗША па сённяшні дзень. Спадар Рорабакер асуджаў Грузію за вайну ў Паўднёвай Асеціі і, натуральна, асуджае Украіну за ўціск рускіх у Данбасе, галасуючы супраць выдзялення якой-небудзь амерыканскай дапамогі уладам Украіны. Паводле яго слоў, жыхары Крыма самі хацелі стаць часткай Расіі, а Масква толькі абараніла іх права на самавызначэнне. Мякка кажучы, такая пазіцыя не мае вялікай падтрымкі ў Кангрэсе ЗША, і спадар кангрэсмен Рорабакер не з'яўляецца ўплывовым.

Але калі ў бліжэйшы час у Мінску з'явіцца амерыканскі пасол, а ў Вашынгтоне – беларускі, то ўжо гэтага будзе дастаткова, каб апраўдаць сустрэчу Дана Рорабакера з Аляксандрам Лукашэнкам.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

СКАНДАЛ

## Буйная семейка

Вылетевший из Каунаса самолет вернулся обратно из-за драки пьяных белорусов.

В воскресенье вечером из Каунаса в Аликанте вылетел самолет Ryanair. Едва борт пересек границу с Польшей, как ему пришлось развернуться и лететь обратно из-за драки на борту. Ночью представитель службы охраны госграницы Рокас Пукинскас сообщил, что конфликт в самолете разгорелся между пьяными членами семьи из Беларуси, пишет DELFI.

Муж с женой (они летели с двумя малолетними детьми) стали ругаться, разгорелся нешуточный конфликт, поэтому экипаж самолета решил вернуться. Заместитель директора Администрации гражданской авиации Альвидас Шумскас уже заявил, что инцидент, в результате которого экипаж воздушного судна решает вернуться назад, это экстраординарный случай.

«Я не помню подобного случая, когда экипаж решал вернуться. Наверное, это первое подобное происшествие», – сказал Шумскас журналистам.

После посадки из самолета высадили пьяных белорусов с детьми и одного так же пьяного гражданина Литвы, после чего самолет дозаправили и он вылетел в Аликанте.

В крови гражданки Беларуси было 2,64 промилле, ее мужа – 0,77, гражданина Литвы – 1,14 промилле. Всех пассажиров пограничники передали полиции.

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белорус вошел в пятерку лучших бойцов мира



Авторитетный портал о смешанных единоборствах Sherdog обновил рейтинг лучших бойцов мира. В Топ-5 попал и белорусский боец.

Вот как выглядит первая пятерка лучших бойцов мира в тяжелом весе на 1 августа 2015 года:

1.Фабрисио Вердум (Бразилия);

2.Кейн Веласкес (США);

3.Джуниор дос Сантос (Бразилия);

4.Стипе Миочич (США);

5.Андрей Орловский (Беларусь).

Андрей Орловский родился 4 февраля 1979 года в Бобруйске. Выступает в смешанных единоборствах, одиннадцатый чемпион Ultimate Fighting Championship (UFC) в тяжелом весе (2005–2006). В соревнованиях ММА (Mixed Martial Arts) Орловский долгое время считался одним из ведущих бойцов.

Спортсмен получил прозвище «Питбуль», для соответствия которому использует капу с двумя «клыками».

ПРАТЭСТ

## «Русский мир» дадаў спраў пракурорам



Віцебская каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Таццяна Севярынец** падала ў абласную пракуратуру калектыўную заяву супраць дзейнасці ў рэгіёне прарасійскіх арганізацый.

Заяву падпісалі 28 чалавек – гэта жыхары не толькі Віцебска, але і Глыбокага, Оршы, Наваполацка, Віцебскага і Аршанскага раёнаў.

У заяве выказваецца занепакоенасць актывізацыяй грамадскіх утварэнняў, якія прапагандуюць расійскую нацыянальную перавагу. У прыватнасці, у заяве пазначаны арганізацыі «Рускі дом», «Рускі культурны цэнтр «Русь» спартыўна-пошукавыя атрады «Брама Паазер'я» і іншыя, а таксама казацкія фарміраванні і маладзёжныя клубы пры некаторых праваслаўных прыходах – прыкладам, пад кіраўніцтвам іерэя Алега Плаксіцкага. Той ладзіць вайсковыя зборы, дзе падлеткаў навучаюць карыстацца зброяй і тлумачаць, што трэба «змагацца за Святую Русь» супраць «бандэраўцаў» і «нацыяналістаў».

«Гэтыя арганізацыі бесперашкодна праводзяць свае мерапрыемствы нават у школах, як нядаўна было ў Оршы і ў Талачыне, прыцягваюць да ўдзелу маральна не ўмацаваных беларусаў – падлеткаў, даюць ім у рукі баявую зброю, пра што сведчаць фотасправаздачы з мерапрыемстваў на іхніх сайтах. У Віцебску перыядычна сустракаюцца аб'явы пра набор у групы, каб навучацца нейкім навыкам барацьбы, у тым ліку з нажом – і гэта таксама прапануюць такія ж прарасійскія ўтварэнні... Таму мы патрабуем пільнай пракурорскай праверкі, што да дзейнасці арганізацый і аб'яднанняў такога кшталту, высвятлення кураторства і крыніц матэрыяльных сродкаў, на якія ажыццяўляецца гэтая дзейнасць», – кажа Таццяна Севярынец.

Паводле слоў актывісткі, пракурор, якая прымала заяву, папярэдзіла, што заяўнікам могуць патэлефанаваць для высвятлення нейкіх акалічнасцяў. І што зварот можа быць перададзены для разбору ў КДБ, бо, па вялікім рахунку, размова вядзецца пра ўнутраную бяспеку краіны.

Пакуль тэлефанаванняў не было, але ініцыятыва віцебскіх актывістаў аргкамітэта па стварэнні БХД знайшла водгук і ў іншых рэгіёнах. Грамадскія ўтварэнні прарасійскага толку актыўна дзейнічаюць па ўсёй Беларусі, і занепакоеныя гэтым мясцовыя актывісты вырашылі звяртацца ў пракуратуры розных абласцей, патрабуючы пракурорскіх праверак.

ТЫМ ЧАСАМ

Як паведамляла "Народная Воля" маладзёжныя актывісты склалі спіс, які назвалі "чорнай сотняй" – спіс арганізацый, якія палічылі лабістамі інтарэсаў "русского мира" на тэрыторыі Беларусі. У адказ прарасійскія сайты назвалі складальнікаў спісу "неанацыстамі", а прадстаўнікі некаторых арганізацый, што трапілі ў гэты спіс, адкрыта абурыліся.

